Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 50 (101). Вільня, Серада 29 Чэрвеня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Наш шлях.

Шлях, які выбрала сабе „Сялянская Ніва“, зьяўляецца сапраўды адзіным магчымым шляхам, ідучы па якім увесь наш народ можа вызваліцца з путаў няволі, якія з рожных бакоў заціснулі нашую гаротную долю. Але кожны шлях, што вядзе да лепшай долі, зьяўляецца вельмі цярністым, а дык і шлях, па якім увесь час ідзе наш орган, мае бесканечныя перашкоды. Гэтыя перашкоды ставяць нам усе тыя, што ня хочуць вызваленьня з гаротнай долі нашага сярмяжнага народу. Усе цяперашнія ўладары ўсіх частак Беларусі, з маленькімі рожніцамі, аднак усьцяж імкнуцца да замацаваньня істнуючага палажэньня, да спыненьня нацыянальнага беларускага руху, бо разумеюць добра, што нацыянальнае ўсьведамленьне нашага сялянства і арганізаванасьць яго ў сваім саюзе можа стварыць такую сілу, якая ў корні зьменіць няволю на самастойнае жыцьцё і гэтым спыніць усю эксплёатацыю працоўнага сялянства рожнымі чужынцамі. Беларусь, як сялянская старонка, павінна належыць да працоўных гушчаў, толькі працоўныя масы могуць у ёй кіраваць палітычным, грамадзкім і гаспадарчым жыцьцём. Аб іншай капіталістычнай ці буржуазнай уладзе ня можа быць і гутаркі, бо мы ня маем сваей буржуазіі ў тым значэньні, як гэта разумеюць нашы сялянскія гушчы. Беларускае грамадзянства складаецца амаль што не цалком з сялянства і толькі вельмі невялічкі процант маем мяшчан, яшчэ меней работнікаў і працоўнай інтэлігенцыі. Усе гэтыя клясы жывуць з працы рук, хоць часткова і маюць сваю хату і кавалак зямелькі. Гэтае мізэрнае ўладаньне не дае магчымасьці ні адной з груп нашага грамадзянства мець даход толькі з уласнасьці, а затым усе мы зьяўляемся працоўным народам, у якім сялянства, як па свайму ліку, так па сваей беднасьці, займае першае месца. Вось гэтая аграмадная большасьць насяленьня Беларусі, і ў дадатку, цяпер найбяднейшая наша кляса — **сялянства** павінна адыгрываць у гісторыі нашага народу рашучую ролю, павінна яно дайсьці да ўлады працоўных, каб спыніць вяковыя крыўды, каб спыніць галіту, несправядлівасьць і зьдзекі. Народ наш адродзіцца і вызваліцца толькі тады, калі нашае сялянства пойдзе па шляху сваей моцнай арганізацыі—паграмадзку ўзгадуецца і загартуе ў сабе сілу волі і стойкасьць. Такую працу, якая імкнецца арганізаваць сялянства і гэтым стварыць рэальныя асновы нашай лепшай долі, вядзе Беларускі Сялянскі Саюз. Арганізатары Саюзу, прадстаўнікі Беларускага Народу ў Сойме, паслы В. Рагуля і Ф. Ярэміч ужо амаль што ня 2 гады таму назад зразумелі, што сіла беларускага руху--ў сіле беларускага сялянства, што толькі сялянства як наймагутнейшая лічэбна кляса можа поруч з іншымі працоўнымі вызваліць бацькаўшчыну з нядолі і гора. Але сілы нашага сялянства распылены і прыкрытыя цемрай. Трэба толькі гэтыя сілы сабраць пад адзін сьцяг у свой Сялянскі Саюз і скінуць цемру праз усьведамленьне сялянства, — тады можна будзе зьдзейсьніць усе ідэалы беларускага адраджэнскага руху.

Вялікае значэньне сялянскае арганізацыі ўсе добра разумеюць. Найбольш гэта непакоіць тых, што ня хочуць, каб сялянства павяло за сабой увесь адраджэнскі рух. Дзеля гэтага ўсе нашыя ворагі ўвесь час імкнуліся і імкнуцца да таго, каб не дапусьціць да ўсьведамленьня сялянства, каб не дапусьціць да стварэньня моцнага Сялянскага Саюзу.

## З СОЙМУ.

### Прапанова

Беларускага Пасольскага Клюбу ў справе кс. Гадлеўскага, якога проці 22 арт. Канкардату пасадзілі ў Макатоўскі вастрог у Варшаве.

Суды Рэчыпаспалітае за беларуска-нацыянальную працу асудзілі кс. В. Гадлеўскага на 2 гады крэпасьці.

Згодна з 22 арт. Канкардату, падпісанага 10.II. 1925 г. паміж Польскаю Рэчыпаспалітаю і Апастольскаю сталіцаю, каталіцкія духоўнікі, асуджаныя ў вастрог без пазбаўленьня правоў, павінны адбываць кару ў кляштары, або ў іншым месцы на гэта вызначаным.

Нязгодна Канкардату Міністар Справядлівасьці выдаў распараджэньне з 23.II. 1927 г. (Dz. Urz. Min. Sprawiedliwości № 5), згодна якога духоўнікі, асуджаныя на кару ў вастрог, або ў крэпасьць, павінны адбываць гэтакую ў вызначаных на гэта катаржных вастрогах.

Дык згодна гэтага распараджэньня, кс. В. Гадлеўскі, асуджаны на 2 гады крэпасьці 24 сакавіка 1927 г. заместа кляштару пасаджаны ў Макатоўскі катаржны вастрог у Варшаве.

Дзеля гэтага падпісаныя прапануюць:

Высокі Сойм няхай пастановіць:

Урад заклікаецца Соймам зараз-жа перавясьці кс. В. Гадлеўскага з катаржнага вастрогу ў Макатове ў вызначаны на гэта кляштар згодна Канкардату.

Варшава, 20 чэрвеня 1927 г.

### Прапанова

пасла Рагулі і кал. з Беларускага Клюбу ў справе дапамогі жыхарству Наваградзкага ваяводзтва з прычыны стыхійнай катастрофы.

12 і 14 г. чэрвеня на тэрыторыі Наваградзкага ваяводзтва прайшлі два гураганы, якія прычынілі тутэйшаму жыхарству вялікія шкоды. Вялікія страты прычыніліся ў Слонімскім, Наваградзкім, Стаўпецкім, Лідзкім, а часткава і ў Баранавіцкім паветах. Вялізарныя страты зьяўляюцца як у будынках, так і пасевах, якія ў некаторых вёсках абсалютна выбіў град, які падаў вялікасьцю з валоскі гарэх, а нават у Стаўпецкім павеце з курынае яйко.

Акрамя зьнішчэньня засеваў і будынкаў, многа асобаў забіта і паранена. У Наваградзкім павеце найбольш уцярпелі Райчанская, Дварэцкая, Кашэлеўская, Пачапаўская, Уселюбская, Любчанская і Дзятлаўская воласьці, дзе як напрыклад в. Валоўка амаль што дачыста зьнішчана, бо з будынкаў 28 гаспадароў, толькі чатыры асталіся цэлымі.

У Стаўпецкай воласьці, у вёсцы Баханы, акрамя ахвяраў людзьмі і зьнішчэньня пасеваў, дачыста збураны будынкі 15 гаспадарак.

Зьнішчэньне пасеваў дасягае з 20 проц. у Баранавіцкім павеце, да 95 проц. у Наваградзкім павеце, напрыклад у Дварэцкай воласьці.

Дзеля таго, што жыхарства Наваградзкага павету вельмі ўцярпела ад сьвятовае вайны і не направіла яшчэ сваіх гаспадарак, гэтая стыхійная катастрофа палажэньне зрабіла надта цяжкім, а каб не дапусьціць выміраньня ад голаду насяленьня, неабходна прысьці з неадкладнаю дапамогаю ад ураду.

Ніжэй падпісаныя прапануюць:

Высокі Сойм няхай пастановіць:

Заклікаецца Ўрад прысьці з дапамогаю жыхарству Наваградзкага ваяводзтва, якое спаткала стыхійная катастрофа.

Варшава, 20 чэрвеня 1927 г.

---

І затым рожныя Паўлюкевічы, ды Луцкевічы і нарэшце іх падгалосак „наўчоны спадар“ Янка Станкеўчык прыкладалі і прыкладаюць свае рукі да разбураючай працы. Але апошні з іх, каб больш падлізацца сялянству і ўвесьці яго ў блуд, адважыўся назваць сваю кумпанію таксама „Беларускім Сялянскім Саюзам“. Гэты замаскаваны манэўр ворагаў беларускага адраджэньня гавора толькі аб тым, што Беларускі Сялянскі Саюз і яго правадыры выбралі правільны шлях, што толькі гэты шлях вядзе да поўнага вызваленьня. Сялянству трэба толькі ісьці па гэтым шляху, не зважаючы на тое, што нашыя ворагі хочуць зьбіць сялянства з праўдзівай дарогі, што вядзе да нашага збаўленьня.

Дык кожны селянін помні, што здабудзеш сабе лепшую долю толькі сваімі мазольнымі рукамі і толькі пры помачы свайго Сялянскага Саюзу будзеш сам гаспадаром на сваей зямлі!

Кожны запісвайся ў Саюз!

А. Саюзьнік.

## Складайце афяры на помач зьнішчаным навальніцай гаспадаром!

Рэдакцыя „Сялянскае Нівы“ зварачваецца да ўсіх падпішчыкаў, чытачоў і наагул да беларускага грамадзянства, што жыве ў краі і заграніцай, асабліва ў **Амэрыцы**, з клічам: **прысылайце афяры на помач зьнішчаным навальніцай гаспадаром!**

Афяры можна прысылаць на адрэс: **Вільня, Завальная 6—5 (Wilno, Zawalna 6—5) — Рэдакцыя „Сялянскае Нівы“.**

---

## Рэфэрэндум у Літве.

Старшыня літоўскага ўраду Вальдэмарас, у гутарцы з прадстаўнікамі прэсы, сказаў, што ўрад апрацоўвае адумысловую ўставу ў справе рэфэрэндум. Рэфэрэндум у Літве мае адбыцца пасьля летніх работ на ральлі.

Апрача таго Вальдэмарас заявіў, што ўрад апрацоўвае новую прэсавую ўставу, якая мае на мэце больш упарадкаваць цэнзуру.

## Землятрасеньне у Крыме.

У Крыме 27 г. м. чутно было трасеньне зямлі. Ад землятрасеньня сьцены шмат камяніц пашчапаліся.

## Замах на старшыню Ваеннага Суду у Маскве.

На старшыню Ваеннага Суду ў Маскве т. Аргола быў зроблены замах. Некалькімі з лівапвэру стрэламі ранены судзьдзя.

Вінавальніка замаху арыштавалі.

---

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

# Аб выбарах у самаурады.

## Сяляне-Беларусы!

Помніце, што цяперяшнія выбары ў самаўрады выскажуць, ці Вы добра асьвядомлены і арганізаваны, ці не. Ад вашага дружнага выступленьня на выбарах будзе залежыць склад выбраных валасных рад. Як толькі выбярэце сваіх сялянскіх прадстаўнікоў, то зараз у воласьці пойдуць новыя парадкі, перадусім наступіць зьмяньшэньне падаткаў і рожныя іншыя палёгкі. Дык усе, хто мае скончаных 21 год, ідзіце на раённыя (вясковыя) сабраньні, стаўляйце сялянскіх кандыдатаў у сябры валаснога сабраньня і дружна галасуйце за сваіх прадстаўнікоў. Каб ні адзін ваш голас ня ішоў за абшарнікаў ці іх эканомаў або рожных каляністых! Аддавайце галасы толькі за сваіх беларускіх сялянскіх мясцовых кандыдатаў! Але і сярод Беларусаў ёсьць ужо здраднікі, дык трэба высьцерагацца агентаў Паўлюкевіча і іншых, што раз'яжджаюць па вёсках і вядуць агітацыю. З імі вам не падарозе. Трымайцеся толькі сваіх сялянскіх мясцовых беларускіх сьвядомых парадпікаў і ідзіце за іх радай!

Выбраныя сябры валаснога сабраньня павінны загадзя паразумецца між сабой і саставіць адзін сьпісак кандыдатаў у валасную раду ад групы сялянскіх сяброў валаснога сабраньня. Усе фармальнасьці трэба зрабіць паводле закону і інструкцыі, якія былі надрукаваны ў № 46 і 48 „Сялянскае Нівы". Калі-б у часе раённых ці выбараў на валасным сабраньні хто небудзь нарушыў выбарны закон, дык абавязкам кожнага з вас падаць павятоваму выбарнаму камісару пратэст і дамагацца ўневажненьня выбараў (§§ 40, 41, 42 выбарнага закону).

Каб магчы сьлядзіць за выбарамі і даваць сялянам парады ў справе выбараў, просім усіх сялян выбаршчыкаў прысылаць у рэдакцыю такія даныя:

**1) На які дзень вызначаны выбары сяброў валаснога сабраньня ў данай вёсцы?**

**2) На які дзень вызначана валаснае сабраньне ў данай воласьці?**

**3) Як адбываліся выбары сяброў валаснога сабраньня?**

**4) Як адбываліся выбары валасной рады на валасным сабраньні?**

**5) Каго выбралі ў сябры валасной рады і склад новай рады па нацыянальнасьці (колькі Беларусаў, колькі Палякаў і колькі іншых?).**

**6) Характэрыстыка сяброў новае рады?**

**7) У выпадку нарушэньня закону пры выбарах—ці паданы пратэст?**

## Беларусы перамагаюць.

Эндэцкая польская газэта „Dzieńnik Wil." у сувязі з выбарамі ў валасныя рады піша наступнае:

„Сьледам за правалам польскіх выбарных сьпіскаў да самаўрадаў у некаторых паветах Віленшчыны, а між іншым у Маладэчанскім павеце, дзе Палякі здабылі мізэрны процант галасоў, польскія сьпіскі панясьлі новы правал. У выніку нядаўня праведзяных выбараў у валасныя рады ў Слонімскім і Нясьвіскім пав., беларускія сьпіскі атрымалі 80 проц. мандатаў".

---

**СЯЛЯНЕ! Аб нарушэньні закону пры выбарах падавайце пратэсты!**

---

## З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

### Справаздача Гуртка Інстытуту ў Гайніне, Баранавіцкага павету.

Гурток істнуе ад жніўня 1926 г., мае 10 сяброў. Гурток ня мог праявіць шырокай дзейнасьці з прычыны цедастачы матэр'яльных сродкаў і недахвату інтэлігентных працаўнікоў. Гурток усёй-ж такі залажыў коопэратыўную бібліятэчку; кніжкі вельмі ахвотна хватаюцца ўсімі сябрамі, асабліва школьнай моладзьдзю ўсей вёскі. Апрача таго супольна з Мядзьведзіцкім гуртком Гайнаўскі гурток ладзіў лекцыю. Для ажыўленьня працы гуртка вельмі пажадана, каб інструктар Інстытуту даведаўся да нас.

Старшыня **Я. Скарына.**

Сэкрэтар **Я. Шпак.**

### Падзяка.

Ад імя ўсяго Інстытуту гэтым складаю гарачую падзяку ўраду і ўсім сябрам Гуртка Беларускага Інстытут Гаспадаркі і Культуры ў Жодзішках за вельмі спагаданае і цёплае прыймо, якое было выказана гуртком віленскай трупе „Беларускі Народны Тэатр" і старшыні цэнтральнага ўраду падчас сьвяткаваньня ўгодкаў залажэньня тэатру, Жодзішках. і абходзін Купальля.

**А. Більдзюкевіч**

Старшыня Цэнтр. Ураду Інстытуту.

# З жыцьця Польшчы.

### Аб зьмене выбарнага закону.

24-га чэрвеня канстытуцыйная падкамісія Сойму разглядала праекты зьмены выбарнага закону ў Сойм і Сэнат.

Падкамісія абгаварвала праект Нацыянальнай Работніцкай партыі (NPR).

Паслы нацыянальных меншасьцяў выступілі проці гэтага праекту зьменаў, які мае на мэце зьменьшыць у Сойме лік прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў. Паслы з лявіцы прапанавалі рад паправак, між іншым адзін польскі пасол прапанаваў увядзеньне саюзусьпіскаў у паасобных акругох для чатырох выбарных груп.

Пад канец дыскусіі падкамісія паверыла рэфэрат аб зьмене выбарнага закону паслу Попелю, які мае прыгатаваць справаздачу на бліжэйшае паседжаньне падкамісіі, якое адбудзецца 30-га чэрвеня.

### Паседжаньне Сойму і Сэнату.

Бліжэйшае паседжаньне Сойму мае адбыцца 30-га чэрвеня. Сэнат мае сабрацца ў часе ад 6 да 13 ліпеня і разгледзіць прынятую Соймам папраўку да канстытуцыі ў справе разьвязаньня Сойму.

### Роспуск соймікаў.

Паводле вестак, міністэрства ўнутраных спраў маніцца распусьціць павятовыя соймікі і павятовыя аддзелы і вызначыць выбары сяброў соймікаў. Такія выбары маюць адбыцца пасьля выбараў валасных рад.

---

# НАВІНЫ.

**— Сьвяткаваньне Жодзішнага Гуртка.** Жодзішны Гурток Інстытуту дня 26-га г. м. сьвяткаваў угодкі залажэньня ў Жодзішках беларускага тэатру і абходзіў Купальле.

Пасьля спэктаклю, які быў адыграны трупаю „Беларускі Народны Тэатр", сябры гуртка, віленская трупа і запрошаныя госьці на лодках выехалі па Вяльлі за некалькі вёрст ад Жодзішак і над берагам Вяльлі каля засьц. Мель наладзілі маёўку. Прыехаўшых на лодках авацыйна з разложанымі агнямі спаткалі сябры Інстытуту з акалічных вёсак. Падчас маёўкі адбываліся скокі, сьпевы беларускіх народных песьняў, дэклямацыі і прамовы.

У часе гэтага сьвяткаваньня Гурток выказаў нязвычайную арганізаванасьць, беларускі патрыятызм і вялікія мастацкія здольнасьці сяброў. Сьвяткаваньне трывала аж да раніцы.

---

# З успамінау мінулага.

Ціхі веснавы вечар. Я выйшаў на вуліцу надыхаць сьвежым паветрам. Ад лёгкага ветрыка шапочуць маладыя лісточкі на разьвесістай старой ліпе, навяваючы нейкую задуманнасьць на душу, жальбу да чагосьць... Зоркі мігацяць на бязвоблачным небе, нібы хочуць штось сказаць таёмнага... пацяшаючага. У ціхай задуманасьці я апусьціўся на лаўку пад ліпой.

Гэты ціхі, цёплы вечар напомніў мне іншы вечар... за кратамі турмы ў Пружане. Так-сама, як сёньня, і тагды ўжо распусьціліся дрэвы. Праз адкрытае вакно ў цесную цэлю ўрывалася сьвежае веснавое паветра. Чатырнаццаць арыштантаў з выбледлымі худымі тварамі, з нейкаю нецярплівасьцю, то хадзілі з кутка ў куток, то падыходзілі да вакна і глядзелі з роспаччу на чырвоны мур, які аддзяляў іх ад сьвету. Я абапёршыся на вакно, прытуліўшыся распаляную ад жальбы па волі галавою да халодных жалезных крат, так-сама глядзеў на сіняе неба, з якога як сёньня мігацелі нязьлічонай колькасьці зорачкі; так-сама шапаталі ад лёгкага ветру за чырвоным мурам жалезныя вяршочкі плакучых бярозак...

...У цэлі робіцца ціха. Адзін з арыштантаў пачаў апавяданьне аб сваіх жыцьцёвых няўдачах і ўсе арыштанты, усеўшыся кругом яго, слухалі гісторыю, забываючы на некалькі хвілін сваё гаротнае жыцьцё і цэгляныя чырвоныя муры, што іх сьцераглі. Нават зялёныя вяршынкі бярозак, здавалася, пахіліліся бліжэй над мурам і быццам прыслухоўваліся сумнаму апавяданьню сына гаротнае ўгнецянае, утопленае ў сьлёзах старонкі...

„Калісьці—пачаў сваё апавяданьне малады арыштант—гадоў чатыры таму я ня ведаў, што ёсць палітыка і тым балей турма. Гэта апошняя была для мяне чым-сь нядобрым, страшным. Калі часта пры мне гаварылі, што туды пасылаюць большасьць нявінных,—гатовых да ахвяр для сваіх блізкіх людзей,—я ня спрачаўся, але сам думаў, што ня зусім гэта праўда. Чаму-ж не пападу туды я, ці вось Мітрафан, ці Габрусь, калі мы нічога ліхога не зрабілі?! У ліхую гадзіну аднак мусіць я падумаў гэта.

Было гэта ў восень у 1923 годзе. Выбраўся я з сваімі знаёмымі хлопцамі шукаць сабе працы ў якойколечы лесапільні. Набралі сабе ў мяшэчкі хлеба на цэлы тыдзень і пайшлі ў чацьвярох да найбліжэйшай пільні, якая была ад нашае вёскі 17 кіл. Да паўдня дабраліся на мейсца, але працы не знайшлі і тою самаю дарогаю варочаліся да хаты. Дарога ішла сярод хваёвага лесу. Нас захапіла ноч. Нязьлічоная колькасьць сьвятлячкоў, як зоркі сьвяціліся ў прыдарожнай мураўцы, і мы, ня гледзячы на зморанасьць і цяжкія торбы на плячох,—адзін перад адным хапалі гэтыя зоркі і забаўляліся імі. Каля поўначы падыйшлі да сваей вёскі.

За хвіліну, разьвітаўшыся з сваімі таварышамі — я йшоў па вуліцы да сваей хаты. Не даходзячы колькінаццаць крокаў заўважыў я штось белае сярод вуліцы. Падыйшоў,—пачка паперы зьвязана шнурочкам. Ня думаючы доўга, я нагнуўся і ўзяў гэную пачку, з мэтаю паглядзець заўтра, што гэта ёсць. Увайшоў у хату сваю ціха, ня хочачы будзіць сваей сям'і, палажыў пад лаўку сваю торбу з хлебам і знайдзену пачку паперы, разьдзеўся і лёг на сваім ложку.

Збудзіў мяне нейкі гоман. З прасоньня ня зусім цяміў. Было яшчэ цёмна. Калі прыслухаўся, пазнаў за вакном голас свайго бацькі, які гаманіў з двумя нейкімі людзьмі.

— „Hdzie jest syn pana?" — пачуў я незнаёмы голас.

— „Пайшоў яшчэ ўчора шукаць сабе працы, — чую адказ бацькі.

— „Dokąd?"

— „Ня ведаю, паночку".

— „Proszę zapalić ogień".

Усе трое ўвайшлі ў хату. Бацька запаліў лямпу. Пры сьвятле лямпы я пабачыў двух паліцыянтаў. Што ім трэба?! Няпрыемнае пачуцьцё ахапіла мяне.

Кінуўшы погляд на мяне, паліцыянт з пагрозаю паглядзеў на бацьку, які ня ведаў, як сталася, што я дома, бо ня чуў як прыйшоў. Я ўстаю з ложка. — „Z rozkazu... i t. d. muszę зрабіць рэвізію". — Згаджаюся. Пачалі трасьці. Знайшлі торбу з хлебам. Паясьняю, што хадзіў шукаць заробкаў і ўначы вярнуўся.

— „А чаму бацька хацеў схаваць вас?"

— „Бо ён ня бачыў, як я прышоў"—кажу. Зноў трасуць.

— „A to co?" — і мая пачка, якую я знайшоў на вуліцы, перайшла ў рукі паліцыянта.

— „Гэта..."

— „Komunistyczne odezwy!"

Ніякія паясненьні не памагаюць. Мяне скручваюць вяроўкамі і вядуць... Куды?

А вось пасьля доўгай валакіты па рожных пастарунках, экспозытурах і іншых, пасьля цэлага раду „дапросаў", аб якіх гаварыць тут ня буду, трапіў у гэтую самую турму, у якой я сёньня".

Арыштант замаўчаў. Некалькі часін усе маўчалі.

—„Гэта было ў 1923 годзе. Але слухайце далей. Прасядзеў я тагды дзевяць месяцаў, за гэтымі самымі кратамі. Ужо і не чакаў, што калі выпусьцяць. Ба! нават сам сябе лічыў ужо нейкім вінавайцаю, заслугуючы на цяжкую кару. Аж аднэй раніцай прыйшлі, прыказалі апрануцца і... выпусьцілі, нават ня спытаўшы і не сказаўшы ні слова.

Выйшаў за браму вастрогу,—якая з лязгам зачынілася за мною, — аглядзеўся... Сьлёзы толькі заімглілі вочы. Што гэта? сон? Так, гэта ўсё быў нейкі цяжкі сон—нічога больш,—і ледзь валочучы ногі паплёўся да хаты. І часта дома ўжо стаяў перад вачыма гэты страшны да болю сон... Прайшло тры гады. Жудасны сон крыху забыўся—сьляды па ім засталіся. Я стаў задуманым, мяне навясьціла мэлянхолія; я часта забываўся пры рабоце, і работа валілася з рук. То зноў слухаю нечае апавяданьне і... ні слова не пачую я яго,—мысьлі лётаюць нейдзе далёка; то іду да хлява,—а зайду да пуні; а часта,—як і ў турме,—садзіўся я ля вакна апёршыся на

# СЯЛЯНЕ! Галасуйце за сьпіскі беларускіх сялянскіх кандыдатаў!

**— Прыезд Прэзыдэнта ў Вільню.** У сувязі з урачыстасьцямі каранацыі Вострабрамскага абразу для большай палітычнай польскай дэманстранцыі 1-га ліпеня маюць прыехаць у Вільню Прэзыдэнт Польшчы Масьціцкі і Старшыня ўраду марш. Пілсудзкі.

**— Беларусы і каранацыйная ўрачыстасьць.** Дзеля таго, што польскае духавенства і польскія ўлады рыхтуюцца да каранацыі Вастрабрамскага абразу пад назовам „Каралевы Польскай“ і адначасна хочуць гэтым зрабіць польскую палітычную дэманстрацыю на нашых землях, Беларусы пастанавілі ня прыймаць удзелу ў быццам рэлігійнай дэманстрацыі.

**— Мастацкая выстаўка.** Ад 24 чэрвеня да 5 ліпня ў салі Віленскай Беларускай Гімназіі (Вострабрамская 9) аткрылася мастацкая выстаўка прац вучняў мастацкіх працоўняў Віленскай і Радашкоўскай гімназіі з удзелам кіраўніка, мастака Я. Драздовіча.

Выстаўка адчынена штодзень ад 12 да 7 гадзіны ўвечары.

**— Беларускі Народны Тэатр.** Аб'ездная трупа „Беларускі Народны Тэатр“ Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры надовячы выехала на правінцыю. Першы спэктакль-вечарына быў адыграны ў Смаргонях дня 25 г. м. Пастаўлены былі: „Мікітаў Лапаць“ і „Міхалка“. П'есы былі прыкрашаны беларускімі нацыянальнымі танцамі, а таксама выступленьнем беларускага хору.

Тэатр меў вельмі добры пасьпех.

Другі спэктакль быў адыграны 26-га г. м. у Жодзішках, Вялейскага пав. Ставілі „Суд“ і „Мікітаў Лапаць“.

Наступныя спэктаклі маюць адбыцца у Лебедзеве, Маладэчным, Красным, Палачанах, Валожыне, Суботніках, Іўі і г. д.

**— Арышты ў Беласточчыне.** Паводле польскіх газэт паліцыя ў Беластоцкім ваяводзтве ў працягу апошняга тыдня зьліквідавала быццам камуністычную ячэйку і арыштавала 10 асоб у м. Сьвіслачы.

Цікава, адкуль бяруцца гэтыя ячэйкі, бо ўжо ў працягу некалькіх год кожны тыдзень па некалькі ячэек паліцыя ліквідуе?!

---

*Сяляне! Арганізуйцеся, у арганізацыі — сіла!*

---

## Усюды клін.

Балянсуючы вынікі выбараў у Віленскую Меставую Раду „Наша Праўда“ піша:

„Сялянская Ніва“ ашуканствам адарвала ад сьпіску № 15 частку галасоў выбаршчыкаў-Беларусаў, абвясьціўшы напярэдадні выбараў, быццам на сьпіску № 15 Беларусаў няма, і быццам дзеля гэтага беларускія работнікі пастанавілі галасаваць за № 1“.

Радуючыся сваей перамозе „Сялянская Ніва“ вітае беларускіх работнікаў, якія прыхіліліся да яе заклiку і сьвядома сталі на беларускім нацыянальным грунце.

Пішучы далей аб выбарах „Наша Праўда“ пакіравала ў іншы бок кола сваіх адносінаў да Літвіноў заяўляючы:

„Бясспрэчна дадатнім фактам будзе ўваход у Меставую Раду прадстаўніка Літвіноў, ведамага культурнага працаўніка д-ра Шлапэліса“.

Але-ж паглядзіце на шпальты папярэдніх нумараў „Нашае Праўды“, дзе літары як валы стаяць і рыкаюць, што Літвіны—фашысты. Адкуль гэта павеяў на „Нашую Праўду“ гэтакі ветрык і навошта яна гэтак цёпла, пасьля наганы, адзываецца аб Літвінах? Баламутная лёгіка „Праўды“!

Не перастае „Наша Праўда“ заклікаць беларускае сялянства пакахацца з польскімі асаднікамі, гэтак сама як яна сама пакахалася з работнікамі. Але-ж жыцьцё паказала вынікі гэтае еднасьці, бо ў той час, калі П. П. С. атрымала ў Вільні дзевяць месцаў, дык дэнацыяналізатары—Палякі, Жыды і „наша-праўдзінцы“ разам толькі 5! Чаму гэта? А таму, што польскі работнік больш мае шавінізму, чым „Наша Праўда“ — праўды.

Канкуруючы паміж сабою Луцкевіч і Канапацкі імкнуцца кожны сабе захапіць „лаўры“ беларуска-польскага супрацоўніцтва.

Справа ў тым, што Луцкевіч у „Нашай Пр.“ запярэчыў, што ня быў у Варшаве, а сядзеў на Лукішках у вастрозе. Пасьля прызнаўся да віны ды пазьней ў „Н. П.“ напісаў, што быў у Варшаве і вёў перагаворы, але-ж формы для беларускага войска не зацьвярджаў. Цяпер вось ізноў напісаў ліст да паважанае рэдактаркі „Нашае Праўды“ з безфактавым запярэчаньнем, але-ж паважаная рэдактарка гэтак была ўважліва да асобы Луцкевіча, што ўжо ад сябе прытачыла тэкст пісьма п. Канапацкага, які, як відаць, баючыся ўтраціць „ляўры“, падаў некалькі словаў, дзе паміж іншым гаворыцца:

. . . ў 1919 г. у Варшаве, калі я апрацоўваў праекты гэнае (зн. вайсковае формы для беларускага войска ў польскай арміі, *Рэд.*) формы, то праўда, неаднаразова *радзіўся* з п. Луцкевічам і радзіўся толькі ў сэнсе нацыянальных адзнакаў формы, сама-ж форма была зацьверджана тагачасным Міністрам Вайсковых Справаў гэн. Соснкоўскім“.

За гэтае цьвярджэньне Луцкевіч назваў Канапацкага „асабіста чэсным чалавекам“.

Ну што-ж, калі гэтак, дык і няхай „ляўры“ тэхнічнае апрацоўкі фармаваньня „беларускага“ войска п. Канапацкаму, але-ж ідэйнае кіраўніцтва усё-ж такі астаецца п. Луцкевічу, бо п. Канапацкі працаваў, але-ж „радзіўся“ з Луцкевічам „у сэнсе адзнакаў формы...“

Ёсьць ведама, форму аканчальна зацьвердзілі польскія ўлады, але пакуль гэта наступіла, дык з боку беларускага гэтую форму зацьвердзіў Луцкевіч, як прэм'ер. Кожнаму гэта ясна, ды і сам Луцкевіч разумее добра. Цьвярджэньне „Сял. Нівы“ аб зацьвярджэньні формы, што яго трэба разумець як зацьвярджэньне праекту формы для беларускіх войск, бо калі польская ўлада фармавала беларускімі рукамі беларускія вайсковыя аддзелы, дык ёсьць ведама, польская ўлада беларускімі рукамі і зацьвяржала форму.

Але дзіўна тое, што Луцкевіч замоўчвае важнейшыя факты, а закранвае толькі некаторыя праявы, менш важныя, сваей дзейнасьці.

Аб найважнейшым закідзе, што Луцкевіч, седзячы ў Варшаве, у часе польска-савецкай вайны, вёў з польскім урадам перагаворы, зусім стараецца замоўчваць.

Рэдакцыі „Сял. Нівы“ на'т ведамы некаторыя падрабязнасьці таго, як „шчыра і спагадна“ прыймаў Луцкевіча тагочасны польскі міністар замежных спраў і чым наагул кончылася луцкевічаўскае абіваньне міністэрскіх парогаў у Варшаве.

За ўсю яго тагочасную дзейнасьць Палякі дагэтуль удзячны Луцкевічу і затым даюць яму магчымасьць вясьці працу на'т пад „Наша-Праўдаўскім“ сьцягам!

---

*СЯЛЯНЕ, БЕЛАРУСЫ!*

***Усе ідзіце на раённыя сабраньні і выбірайце сваіх стойкіх сялян-Беларусаў у сябры валаснога сабраньня!***

---

рукі і доўга, доўга бязмэтна глядзеў на сіняе неба“...

Арыштант уздыхнуў цяжка і ўсё здавалася замёрла навокал яго. Бярозкі яшчэ ніжэй нахіліліся над мурам і зялёныя лісткі яшчэ цішэй таёмна аб нечым шапталі...

Падыйшоў 1926 год. Гэты год асабліва памятны сялянам нашае вёскі і акалічнасьці нязьлічанай колькасьцю пратаколаў. То комін ня чысты, то студня не пакрыта, то шчанё на двары бегае, ды і ці можна пералічыць усе тыя крыніцы, з якіх расьлі па 10—15 злотых штрафу на беднага селяніна. На гэтым грунце ў мяне з камандантам мяйсцовае паліцыі паўстала некалькі канфліктаў. Бяручы блізка да сэрца ўсякія зьдзекі над слабейшым, я ня мог устрымацца ад таго, каб не паспрачацца з камандантам паліцыі і некалькі карэспандэнцыяў аб зьдзеках яго над сялянамі паслаў у беларускую газэту, за што камандант пачаў шукаць, да чаго-б прычапіцца, каб пацягнуць мяне ізноў за краты. Гэта яму доўга не ўдавалася, усялякія прычэпкі разьбіваліся, аж урэшце...

Падыйшло 1 мая. З узмоцненаю зоркасьцю прыглядаліся паліцыянты да ўсякіх рухаў, якія здаваліся ім падозранымі. Пад вечар я з некалькімі калегамі пайшлі на вечарыну. Прабыўшы, як і заўсёды, вечар з дзяўчатамі, разыйшліся па хатах. Я спаў ля вакна, якое выходзіла на двор. Сярод ночы браханьне сабак збудзіла мяне, я глянуў у вакно, нейкая цень мітуснулася з двара на вуліцу Ня ведаючы, што гэта можа быць, я выйшаў на двор і прагледзеў усе хлявы з жывёлаю. Уся была на месцы. Скаціна спакойна жвала жвачку. Усю тую ноч мне неяк ня спалася. Яшчэ перад сьвітаньнем застукалі ў дзьверы. Увайшоў камандант і два паліцыянты. Аб'яўляюць, што па даказу ў мяне хаваецца аружжа і яны мусяць зрабіць труску. Шукаюць. Абшукалі ўжо большую палову хаты. Я заўважыў па іх, наагул, рухах, што яны пэўны пажаданага для сябе выніку. Я не памыліўся. Як-бы ненарокам камандант заглянуў у ваднsocym месцы ў страху і выцягнуў лівярвэр. Скуль ён там узяўся—хіба-ж ня трэба гаварыць. Для мяне стала зразумелым і браханьне сабак уночы і цень чалавека, шмыгнуўшага з двара на вуліцу. Ну—і рэч вядомая—я арыштаваны, адначасна быў арыштаваны і мой адзін калега. Абыдвух нас пад канвоем адвялі ў бліжэйшы паліцэйскі пастарунак, дзе і ўпхнулі ў нейкую цёмную каморку бяз вокан, замкнуўшы за намі дзьверы. Што мелі мы рабіць? Я ведаў, што мне нічым ня ўдасца даказаць сваей нявіннасьці, ведаў такжа, чым заўсёды канчаюцца гэткія рэчы.—І вось у маей галаве зрадзілася думка ўцечкі. Агледзіўшы добра падлогу, дзераўляную сьцяну,—мы сталі чакаць вечара. Сумны то быў дзень“...—

Усё слухалі арыштанта з што-раз большым зацікаўленьнем. Некалькі часін ён памаўчаў, пасьля ізноў цягнуў далей:

— „Увечары, калі рух навакол заціх, калі пэўныя аб немагчымасьці ўцечкі вязьняў спад замка паліцыянты нейдзе пайшлі, мы пачалі працу: вынялі гнілую ля сьцяны палавіцу і начали грабсьці мяккую сырую зямлю. Гадзіны дзьве—і нара гатова, каб пралезьці. Адзін за адным выпаўзьлі мы з нашае турмы і... дай-жа Божа ногі. Ня буду гаварыць вам аб тых падрабязнасьцях нашае ўцечкі. Пабываўшы яшчэ ў сваіх бацькоў, паглядзеўшы апошні раз на родную вёску, мы рушылі ў кірунку савецкае граніцы. На трэцюю ноч, перамогшы ўсе перашкоды, мы ўжо былі за граніцай,—тады ўздыхнулі спакойна. Калі пачало днець, мы падыйшлі да аднае вёскі і, сустрэўшы селяніна, пытаемся, як далёка граніца.— „26 кіл., але я вас павінен затрымаць, бо хто ведае, якія цяпер людзі ходзяць дзе“. Мы самі ахвотна пайшлі за селянінам да Сельсавету. Адтуль нас адправілі ў м. Н., дзе вышэйшае начальства мела дапрасіць нас.—„Хто вы такія ды чаго сюды заблудзілі?“...

— „Пане.. таварыш,—пачаў я яму паясьняць, — мы ўцяклі зпад польскага арышту, і пачаў гаварыць аб усім тым, што мы перажылі. Доўга распытываў нас нейкі старшы, аж адвялі нас у нейкую каморку і... замкнулі. Чатыры дні сядзелі мы пад замком, а на пяты дзень аб'явілі нам, што нас „решено“ выкінуць „обратно“ ў Польшчу. Дарэмны просьбы, паясьненьні, дарэмны запэўненьні, што гэтым яны нас асуджваюць на вечную турму—дарэмна ўсё.

Як адшчапенцаў, якім няма месца на зямной планэце, нас гэтак сама пад канвоем правялі да самае граніцы ў лесе, і, паказаўшы дарогу, прыказалі не варочацца больш, „каб ня было гарэй“. Ізноў мы апынуліся ў тым самым лесе, у якім нядаўна ішлі з надзеяй на недалёкае збаўленьне з путаў няволі. Ня маючы сілы больш вытрымаць ад жалю я сеў на вываленым бураю дрэве, сьлёзы першыя, пякучыя да болю, пасыпаліся ў мяне з вачэй... Хто-ж мы ёсьць? Дзе той край, у якім мы маглі-б пражыць сваё жыцьцё? Лішніх, нікому непатрэбных, нас гоняць з аднага боку і выкідаюць з другога, і нідзе няма нам месца і супакою... Далей, што і гаварыць!.. Мы былі заўважаны пагранічнай вартай, схоплены і... вось я тут, а мой калега хворы ляжыць у турэмным шпіталі“.

Арыштант замоўк і нізка спусьціў галаву. Ніхто ня мог прагаварыць слоўца, усе маўчалі толькі нейкі шмэр, ня то ўздох, прайшоў сярод арыштантаў. Вецер мацней зашапатаў бярозкамі і зялёныя лісточкі ізноў таёмна зашапталі, жалячыся на несправядлівасьць людзкую...

Як зараз чую гэтае сумнае апавяданьне арыштанта, бачу яго пабледлую, жальбой сьціснутую твар, як зараз бачу і вяршынкі зялёныя бярозак, нахіляных над чырвоным мурам турэмным.

Таксама мне ціха шапочуць у гэты веснавы вечар зялёныя лісточкі ліпы, прыпамінаючы нядаўняе мінулае.

І мне зразумела іх таёмнае шапатаньне!...

ОСА.

# Да нас пішуць.

### Як праводзяцца выбары.

(В-ка Іванкавічы, Баранавіцкага пав.).

19-га чэрвеня адбылося ў нас сабраньне, на якім выбіралі сяброў валаснога сабраньня.

Ня гледзячы на тое, што ў нашай вёсцы ўсе сяляне—Беларусы, а Палякаў амаль зусім няма, абвадовы выбарны камітэт быў зложаны з асоб неспачуваючых нашай справе; вось яны: Фр. Межэўскі—старшыня, Гуго-Каллантай і Сьц. Гэрман. Апошнія вызначылі самі сябе кандыдатамі, дадаючы яшчэ некалькі асоб з Палякаў ды падлізьнікаў, каторых за грош купіш. Ёсьць там і асаднікі—А. Лягенза, які мае 30 дзес. зямлі пад лесам, далей кандыдаты, што ходзяць на работу да Каллантая.

На сабраньні былі такія рэчы. Галасаваньне адбывалася „пераходам". Гуго-Каллантай—сябра выбарнага камітэту і кандыдат—забег на перад і крычыць: „хто проці мяне, пераходзьце на той бок, а хто за мяне — стойце на месцы".

Трэба ведаць, што Каллантай зьяўляецца ўласьнікам маёнтку, дык ня дзіва, што ў сялян не хапіла адвагі перайсьці на другі бок, бо за гэта пан пачаў-бы пасьля ў суседзтве рожныя судовыя справы, то за скаціну, то за іншыя рэчы. Такім парадкам пан атрымаў 78 галасоў з агульнага ліку 105 галасуючых. Калі сяляне паставілі кандыдатам свайго чалавека Барыса Блашчэніца, то Каллантай яго аблаяў ды вычаркнуў са сьпіска кандыдатаў толькі за тое, што ён дамагаўся тайнага галасаваньня, або галасаваньня з падняцьцем рук.

Гэткім чынам нашай вёсцы ўдалося правесьці толькі аднаго свайго кандыдата Габруся Блашчэніца, а рэшта 4-х—куды вецер вее, або паны, або іх падлізьнікі.

Пакрыўджаны.

**Ад Рэдакцыі.** Дзеля таго, што сябра выбарнага камітэту ня меў права вычаркнуць са сьпіска вашага кандыдата, падайце павятоваму камісару пратэст аб уняважненьні выбараў.

### Выбары сяброў сабраньня.

(Остроў, Баранавіцкага пав.).

11-га чэрвеня ў нас адбыліся выбары сяброў валаснога сабраньня. Сяляне былі добра арганізаваны, стойка стаялі за сваіх кандыдатаў і выбралі выключна сваіх сялянскіх прадстаўнікоў на валаснае сабраньне. Не падабалася гэта чужынцам і вось, калі старшыня зачыніў сабраньне, то б. царскі прыстаў абазваў выбраных кандыдатаў лаяльным словам. Сяляне ўсе абураны за гэта ўжо і хочаць недараваць прыставу. Па закону, абражаныя асобы могуць падаць у міравы суд за абразу і прасіць законнай кары.

Астроўскі.

### Аб нашым жыцьці.

Мы жыхары вёскі Грамавічы, Беніцкай воласьці, Маладэчанскага павету жывём пры ўрадавым лесе, у якім спрадвеку пасьвілі скаціну. Перад вайною плацілі за пашу ад кожнае скаціны 50 капеяк, а цяпер плацім гатоўкаю па $4\frac{1}{2}$ злоты. Дык, папраўдзе сказаўшы, гэта ня дорага, можна было-б вытрываць селяніну. Але вось бяда, што акрамя гэтага яшчэ трэба загарадзіць сенажаці, якія невялікімі кавалкамі знаходзяцца сярод лесу. Пакуль не загародзіш, ня выдадуць білету на пашу, а гарадзіць прыходзіцца вельмі многа. Напрыклад, калі селянін мае дзьве кароўкі, дык на яго долю прыходзіцца гарожы па 4 дні з канём, бо трэба вазіць жэрдкі. Жэрдкі ня будзеш сеч дзе захочаш, а там, дзе вызначаць, дык часта прыходзіцца вазіць вельмі здалёку. Калі палічыць дзень працы работніка з канём 5 злотых, дык за чатыры дні выйдзе 20 злотых, а знача — селянін, маючы дзьве кароўкі, плаціць за пашу не $4\frac{1}{2}$, а 15 злотых.

А яшчэ бяда і ў тым што калі загарадзіць усе кавалачкі сенажаці, дык астаюцца толькі самыя гушчары, дзе для пасьвіска ня прыгодна. Просім лясную ўправу, каб гэтыя сенажаці скасаваць, бо надта шмат зьявілася іх ў лесе Маркаўскай дачы.

Да ўсяго гэтага трэба далучыць і тое, што авечак пасьвіць па ўсяму лесе нельга, трэба купляць вызначаны кавалак, а як купляць?

За пашу для авечак таксама трэба плаціць працаю. Трэба за два гэктары пашы выкапаць ямкі для пасадкі дрэваў на 3 гэктарах, ямка ад ямкі павінна быць 1 мэтр. Ямка павінна быць чатырохвугловая ў чысты кант і наагул з усякімі фасонамі, а калі што ня гэтак, дык зараз і забракуюць, а тагды трэба папраўляць.

Пашлі гэта мы капаць гэтакія ямкі, і, як ведама, зайшлі да лясьніка, але-ж яго ня было дома, дык ужо самі без яго неяк знашлі свой абшар. Для нас была дзялянка ўжо вызначана, адмерана і адзначана тычкамі і напісана „Грамавічы". Пачалі мы капаць, але-ж ня ведалі меры, а паказаць ня было каму. Пасьля двух тыдняў працы, калі мы накапалі ямак на 6 гэктарах і хацелі здаць працу, дык наша праца зьявілася зусім ня прыгоднаю, бо ямкі былі або завузкія, або зашырокія, або заплыткія. З шасьці гектараў толькі $1\frac{3}{4}$ гэктара былі зроблены добра, а рэшта забракавана. За ўвесь час працы лясьнік ні разу ня прыходзіў да нас, каб паглядзець ды направіць, калі што зроблена ня гэтак, як трэба. Цяпер не дазваляюць нам пасьвіць авечак, а тут тэрмін уцякае, а калі ня выканчыш капаных ямак у назначаны час, дык і зусім ня будзеш пасьвіць. Дык вось якое нашае жыцьцё!

С. Невясёлы.

### Яшчэ ўсё дапрос!...

(Дабучын, Пружаншчына).

Нашы хлапцы неяк ідучы з вячаркоў запялі „Ад веку мы спалі". За гэта прычапіўся да хлапцоў паліцыянт тутэйшага пастарунку. Аднаго хлапца Міхася Зарэцкага зацягнуў на пастарунак і моцна „збадаў". Аб гэтым падавалася Беларускім Пасольскім Клюбам п. Міністру Справядлівасьці інтэрпэляцыя.

Цераз нейкі час за пяяньне свайго нацыянальнага гімну прышоў хлапцам карны наказ: трэба або штраф заплаціць, або адсядзець пад арыштам. Лічачы гэта несправя лівым хлапцы падалі заяву да судзьдзі, каб справу разгледзеў публічна і прадставілі сваіх сьведкаў, якія мелі сцьвердзіць, як праўда, што пялі хлапцы беларускі нацыянальны гімн, а не „Інтэрнацыянал", як гавора паліцыянт. Пружанскі судзьдзя заяву прыняў.

Пасьля гэтага прайшло шмат часу. Нашы хлопцы атрымалі павесткі явіцца да судзьдзі ў м. Шэрашова, але сьведкі ня былі паклікаsuccessfully. Цікава толькі, што пан Б. быў таксама дапрошаны як сьведка, хоць зьяўляецца у гэтай справе зусім пабочнай асобай.

Дык вось як з мухі зрабілі вала і цягаюць нашу моладзь, а за што?... Выходзіць, што нам, дык і ня можна пяяць свой нацыянальны гімн! Але-ж ці можна ўстрымацца, каб не выказаць сваё пачуцьцё бадзёрнасьці і жалю словамі і мэлёдыйнымі зыкамі песьні, якія знаходзяцца ў нашым беларускім нацыянальным гімне?

Кожнае слова нашага гімну вылітае ў зыках песьні, гэта-ж крыніца радасьці, дык як-жа ня піць з гэтае крынічкі пацеху?!

I хоць цягаюць нас, бо 11 чэрвеня дапрашывалі 13 хлапцоў, але-ж мы пераносім нягоды бадзёра, бо за сваё роднае і цярпець неяк лёгка і пакутаваць ня страшна!

Малады Беларус.

### Відавочныя зьдзекі.

У м. Браслаўі ёсьць тры бюры, дзе пішуцца заявы і просьбы. Уласьнікам аднаго бюра ёсьць Паляк-галілеюш, другога—Беларус, але несьвядомы, а трэцяга бюра ўласьнікам ёсьць сьвядомы Беларус, працаўнік на ніве беларускай—старшыня ўраду гуртка Б. І. Г. і К. ў Браславе гр. К. Юхневіч. Усе тры вышэй успомненыя бюралісты жывуць паміж сабой у згодзе, не стараюцца адзін другому канкурэнцыі рабіць, дык затое ўсе кіраўнікі ўрадавых установаў са сваей арміяй усіх сваіх падуладных з усіх сіл стараюцца ўвясці канкурэнцыю паміж гэных бюралістаў. Яны апошняга з раду бюралістаў гр. К. Юхневіча перахрысьцілі і яго цяпер інакш не называюць як толькі: „Гурток" або „Hudok" ды „большэвік".

Няхай панове ўрадаўцы за гэта мне выбачаюць, але-ж вы будучы прадстаўнікамі ўлады і людзьмі ў сваім розуме, займаецеся такімі рэчамі як 8—9 гадовыя дзеці бегаючы па вуліцы без апекі бацькоў. Ды гэтага-ж мала. Ці-ж вам, панове ўрадаўцы, ня стыдна гэта сваім „woźnym" прыказываць, каб яны, (калі ў іх пытаецца які небудзь чалавек, дзе можна будзе напісаць паданьне) людзям указывалі, або саўсім прыводзілі да бюра Паляка, а барані Бог да („Hudka") гр. Юхневіча. Гэта ёсьць вялікі стыд для вас, бо робіце відавочны зьдзек над Беларусам.

Зьдзек другі для гр. К. Юхневіча, як для сьвядомага Беларуса, са стараны ўрадаўцаў ёсьць такі: Урад Скарбовы ў Браслаўі, вызначаючы падатак ад абароту для бюралістаў, ужо спаміnаных вышэй, за 1926 год, пастанавіў наступным парадкам: прызнаць высокасьць абароту за цэлы 1926 год Паляку-галілеушу 1200 зл., другому—як Беларусу несьвядомаму 2000 зл., а трэцяму—як Беларусу сьвядомаму толькі за 4 месяцы 1926 году і то 1500 зл.!

Гэта знача, першы мае абароту ў месяц 100 зл., другі—166 зл. 67 гр., а трэці—К. Юхневіч—375 зл.

З гэтага ўжо мы ясна відзім, што ў нас, з боку польскіх урадаўцаў, ёсьць відавочныя зьдзекі над Беларусамі і ня ведаем, калі яны кончацца.

Мусіць Ён.

### Аб шутавіцкіх справах.

У 25 годзе была ў Шутавічах, Смаргонскай воласьці, школа, хоць польская, але для нашых дзетак было лягчэй, бо было бліжэй хадзіць. Вядома, на вёсках цяпер пануе галіта, дык як блізка, узьдзеўшы які колячы лахман, ці якія атопкі, можна было хутчэй перайсьці ўраз некалькі хатаў. Цяпер перанясьлі школу ў в. Сукневічы, а гэтакім парадкам там ужо аж тры школы. Хто гэтаму вінават—не вядома. Гавораць сяляне усяк. Можа „вяльможным панам" вуцыцялём было далека хадзіць адзін да аднаго, ці можа так з якой прычыны? Пыталіся ў вучыцялёў, дык яны адказалі „to tak trzeba". Вось, браткі-ж вы мае, цераз гэта даецца нашым дзеткам, а так-жа і бацькам у знакі гэтае вучэньне! Марозамі ды мяцеліцамі, калі людзі нават і сабакі не выганяюць на двор, а дзецям трэба ісьці, бо не пашоў, дык зараз і чакай нейкіх паперак, а зараз за паперкамі кары: штрафы ды арышты. Гэтак напрыклад, у нашай вёсцы сталася з А. П. і Ю. Ш. Плаціць няма чым, дык абвінавачаныя і кажуць, няхай апісваюць пасьледнюю кароўку, або пасьледні пуд жыта. А хто гэта устанаўліваў? Хто яго ведае, можа інспэктар школьны, ці можа і самі паны вучыцялі, бо абвінавачаных на расправу нікуды ня клікалі. З беларускімі дзяцьмі у школах абходзяцца надта дрэнна. Крычаць, каб дзеці не гаварылі пабеларуску ў школе. Асабліва выдзяляецца з трох вучыцялёў Л. Я. Родам ён з мужыцкай беларускае хаты, Смаргонскай вол. Але, як відаць, ён забыўся, што над яго калыскай матка сьпявала беларускія песьні. Ен забыўся, што ганяў у поле скаціну з гэтакімі самымі дзяцьмі і падзяляўся песьнямі і гутаркай у сваей роднай беларускай мове. А цяпер, гэты „пан", вычураўшыся ўсяго свайго роднага, крычыць на дзяцей, каб ні гаманілі па свояму. Аднаго разу прынёс вучань у школу беларускую газэту „Сял. Ніву"; гэты „вяльможны пан", узяўшы яе, паглядзеў і кінаў вучню, ды гавора іншым дзецям паціху: „nie trzeba takiego paskudztwa przynosić do szkoły, trzeba nosić polskie gazety".

Спатыкаючыся са сваім чалавекам ён заўсёды гаворыць толькі папольску.

Ганьба табе, панок! А вы, дзеткі, помніце, хто вас крыўдзіць!

Нецярплівы.

---

СЯЛЯНЕ! На раённых сабраньнях дамагайцеся тайнага галасаваньня!

---

## НАШАЯ ПОШТА.

**Ів. Прэдку.** Вашага першага пісьма не атрымалі. Паслалі яшчэ раз друкі і чакаем запоўненай анкеты.

**Ф. Сьвірэпе.** Вашага пісьма немагчыма зьмясьціць, бо яно разьмінаецца з праўдай. Вы не здаеце сабе дакладна справы з Вашай акцыі. Рэдакцыі дакладна ведама, хто зьяўляецца шчырым працаўніком на беларускай ніве, а хто падшываецца пад беларускі рух, каб займацца разбураючай працай. Раім Вам перастаць супрацоўнічаць з асобамі, якія не належаць да шчырых беларускіх дзеячоў.

**А. Дудка.** Газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Барташэвіча Вінц. — 3 зл.

Апанасэвіча Мацея, Палачаніна Паўлы — па 2 зл.

---

## Да ведама падпішчыкаў.

*Шмат падпішчыкаў не атрымлівае зусім або вельмі неакуратна атрымлівае „Сялянскую Ніву". Прычынай гэтага зьяўляецца благая воля валасной адміністрацыі і часам паштовых урадоўцаў. Каб спыніць гэтую ненармальнасьць, просім усіх падпішчыкаў прысылаць адкрыткі з паведамленьнем, ад якога часу падпішчык не атрымлівае газэты, ці якога нумару „Сялянскае Нівы" зусім не атрымаў. Апрача гэтага трэба напісаць, ці падпішчык атрымлівае газэту сам з пошты, ці праз воласьць. У кожным выпадку віны ўлады адміністрацыя газэты будзе рабіць інтэрвэнцыю.*

*Адміністрацыя „Сял. Нівы".*

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.